І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Чэрвень 2012

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## Як пажываюць гомельскія рэканструктары?



стар. 4

**На гомельскім вінзаводзе адбылася ўцечка сярністага ангідрыду**

стар. 2

**Трагічнае супадзенне: на Гомельшчыне ў дзвюх аварыях сутыкнуліся ВАЗ і Volkswagen**

стар. 6

**Ігар Случак збірае каманду для выбарчай кампаніі**

стар. 8

# Беларусы адваявалі сабе «Барбарыс»

***Гомельская кандытарская фабрыка «Спартак» выйграла ў кампаніі «Рашэн» (Украіна) барацьбу за тавáрны знак «Барбарыс», паведаміў сайт беларускага прадпрыемства. Пасяджэнне калегіі па справах інтэлектуальнай уласнасці Вярхоўнага суда Беларусі адбылося 14 чэрвеня.***

20 красавіка 2010 года Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці Беларусі зарэгістраваў таварны знак «Барбарыс» за кампаніяй «Рашэн». «Спартак» звярнуўся ў суд са скаргай, «бо яму як уладальніку таварнага знака «Барбарыс» рашэннем Апеляцыйнага савета пры патэнтным органе было адмоўлена ў задавальненні пярэчання супраць давання прававой аховы ў Рэспубліцы Беларусь слоўнаму таварнаму знаку «Рашэн Барбарыс», зарэгістраванаму на імя даччынага прадпрыемства «Кандытарская карпарацыя „Рашэн“ (Украіна)».

Як гаворыцца ў паведамленні, судовая калегія адмяніла рашэнне Апеляцыйнага савета зыходзячы з наступных фактаў. Слоўнае абазначэнне «Барбарыс» на працягу доўгага часу, прыкладна з 1939 года, выкарыстоўвалася на тэрыторыі СССР, Рэспубліка Беларусь рознымі вытворцамі кандытарскіх вырабаў для маркіроўкі карамелі «Барбарыс», пры гэтым рэцэптура гэтай карамелі заставалася нязменнай і ўваходзіла ва ўніфікаваныя зборнікі рэцэптур 1939, 1970, 1986 гадоў.

Таксама, як вынікае са справаздачы па тэме «Вывучэнне асаблівасцяў успрымання абазначэння „Барбарыс“ насельніцтвам Беларусі», названае абазначэнне вядома 88,7% апытаных; кожны пяты рэспандэнт (22,3%) назваў у якасці фірмы-вытворцы кандытарскую фабрыку «Спартак», і толькі 5% апытаных лічаць, што гэта фабрыка «Рашэн».

Судовая калегія прыйшла да высновы, што пры маркіроўцы аднародных тавараў падобнымі таварнымі знакамі «Барбарыс» і «Рашэн Барбарыс» у спажыўца можа стварыцца ўяўленне аб прыналежнасці іх аднаму вытворцу. Было ўстаноўлена, што перавагу ў прававой ахове мае таварны знак, права на які ўзнікла раней.




У выніку скарга кандытарскай фабрыкі «Спартак» падлягае задавальненню, а рашэнне Апеляцыйнага савета ад 21 верасня 2011 года — адмене.

Даванне прававой аховы таварнаму знаку «Рашэн Барбарыс» прызнана несапраўдным. Рашэнне абскарджанню і апратэставанню ў касацыйным парадку не падлягае, паведамляе «Спартак».

*БелаПАН*

# У Хойніцкім раёне разбіўся самалёт, адзін чалавек загінуў

***Лёгкаматорны аднамесны самалёт разбіўся недалёка ад вёскі Стралічава Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці.***

Пра гэта паведаміў тэлеканал «Беларусь-1».

У самалёце знаходзіцца адзін чалавек, ён загінуў. Як паведаміла беларускае тэлебачанне са спасылкай на МНС, самалёт належаў мясцоваму прадпрыемству.

*Беларусь-1*

# На гомельскім вінзаводзе адбылася ўцечка сярністага ангідрыду

***Як паведаміла прэс-служба МНС Беларусі, інфармацыя аб гэтым здарэнні паступіла ратавальнікам 26 чэрвеня ў 19.51. Праз пяць хвілін першыя падраздзяленні ўжо былі на месцы. Высветлілася, што з транспартнага металічнага балона ёмістасцю 250 літраў адбываецца выпарэнне пароў сярністага ангідрыду. Балон знаходзіўся на адкрытай пляцоўцы захоўвання тары на тэрыторыі прадпрыемства і быў запоўнены сярністым ангідрыдам на 10% (25 літраў). Уцечка адбывалася з адтуліны дыяметрам 5 мм, што ўтварылася ўверсе балона каля запорнага вентылю. Работнікамі МНС адтуліна была заглушана спецыяльным прыстасаваннем.***

Для прадухілення магчымага распаўсюджання рэчыва ратавальнікі стварылі гэтак званую вадзяную завесу. Для страўлівання сярністага ангідрыду балон змясцілі ў каркасную ёмістасць. Яе напоўнілі вадой, дабавілі едкі натрый і адкрылі вентыль. Сярністы ангідрыд пры праходжанні цераз ваду стварае соль, якую можна без усякіх абмежаванняў утылізаваць, патлумачылі ў прэс-службе МНС.

У выніку інцыдэнту ніхто не пацярпеў, тэхналагічны працэс не парушаўся.

У момант узнікнення НЗ на тэрыторыі прадпрыемства знаходзіліся тры чалавекі, якія да прыбыцця падраздзяленняў МНС самастойна яе пакінулі. Найбольш верагодная прычына здарэння — карозія металу транспартнага балона.

Сярністы ангідрыд (серы двувокіс, аксід серы (IV) $SO2$) — бясколерны газ з вострым пахам, таксічны. Пры ўдыханні аэразоль выклікае раздражненне слізістай абалонкі дыхальных шляхоў. Штогод у атмасферу выкідваюцца дзясяткі мільёнаў тон сярністага ангідрыду, які ўтвараецца пры прамысловым спальванні вугалёў і нафты, што ўтрымліваюць злучэнні серы.

*БелаПАН*

## Як атрымаць асалоду ад добрага віна:

1. Адкройце бутэльку і пастаўце ў бок, каб віно падыхала...



2. Калі бачыце, што віно не дыхае, хутка рабіце подых з рота-ў-рот.

У Гомелі два асноўных медыцынскіх дыягназы: можна піць і нельга піць.

# У Мазыры сатаністы апаганілі праваслаўныя храмы

***Інфармацыйны аддзел Гомельскай епархіі паведамляе, што ў Мазырскай і Тураўскай епархіі паўтарылася апаганенне храмаў. Пабіта шкло, надпісы і малюнкі антыхрысціянскага зместу надрапаны на сценах Свята-Міхайлаўскага кафедральнага сабора і храма Сергія Раданежскага, які ўжо быў апаганены ў сакавіку 2012 года.***

«Праваслаўных Гомельшчыны засмучае, што знаходзяцца «смелыя», якія адважваюцца сваімі дзеяннямі зневажаць працу многіх людзей па аднаўленні духоўнасці ў горадзе, раёне, вобласці. Вернікі перакананы, што пакаранне за зробленае непазбежнае, бо апостал Павел у звароце да Галатаў гаворыць:

«Не абманвайцеся: Бог зняважаным не бывае. Што пасее чалавек, тое і пажне», — адзначае кіраўнік інфармацыйнага аддзела Гомельскай епархіі протаіерэй Алег Кастрама.

Нагадаем, мазырскі храм у імя Сергія Раданежскага быў апаганены ў ноч з 17 на 18 сакавіка. Невядомы напісаў на сцяне царквы: «Гары, дрэнь» і намаляваў перавернутыя крыжы — знак сатаністаў. Па гэтым факце была распачата крымінальная справа на падставе арт. 341 (апаганенне збудаванняў і псаванне маёмасці).

*Алена Германовіч, БелаПАН*

# Як пажываюць гомельскія рэканструктары?

***"Старая Вежа", "Моргенштерн", "Турдыён", "Залатая Рысь" , "Грыдні Мсціслава Глебавіча" – вось такім насычаным было рэканструктарскае жыццё 2000-х гадоў у Гомелі. Сярэднявечная Еўропа, Польскае Каралеўства, Вялікае княства Літоўскае… Зараз некаторыя са згаданых клубаў канулі ў Лету. Аднак ці знаходзіцца сёння рух у занядпадзе? Мы паспрабавалі зрабіць невялікі агляд усіх дзейных на сённяшні дзень клубаў горада Гомеля.***

***1. Старая Вежа***

Ад самага ўзнікнення ў 2000 годзе клуб займаецца ваенна-гістарычнай рэканструкцыяй матэрыяльна-побытавай і духоўнай культуры герцагства Баварыя 1360-1400 гадоў. У дзейнасць клуба ўваходзяць рэгулярныя заняткі гістарычнымі танцамі. Акрамя таго, хлопцы рыхтуюць выступы гладыятараў, дэбют якіх паспяхова прайшоў у 2010 годзе ў Мсціславе. Штогод "Старая Вежа" ладзіць уласны фестываль у першыя выходныя жніўня, а таксама Зімовы Баль на каталіцкія Каляды. У апошнія выходныя красавіка клуб праводзіць турнір для навічкоў.

Заняткі "Старой Вежы" адбываюцца штачацвер.

Кантакты: +375293452428, +375336190039 (Людміла)

Суполка ВКонтакте: vk.com/club23220469

***2. Белы Крыж (Das Weisse Kreuz)***

У бок Нямеччыны хіліць і створаны пазней клуб "Белы Крыж", але ў шэрагу са Свяшчэннай Рымскай Імперыяй 14-15 стагоддзяў увагаў ім надаецца і Вялікаму княству Літоўскаму XV стагоддзя. Гэта, па сведчаннях аднаго з кіраўнікоў – Яны Гусейнавай, "клуб сяброў", хаця, акрамя сталай асновы, тут займаецца і некалькі навічкоў. Сябры клуба не маюць рэгулярных заняткаў: кожны робіць сваю справу дома альбо ў майстэрнях.

Кантакты: +375259106436 (Яна)

Суполка "ВКонтакте": vk.com/club19676830

***3. Турдыён***

Пару словаў пра танцораў. Клуб старадаўняга танца "Турдыён" быў створаны ў 2006 годзе. Еўрапейскія танцы Сярэднявечча, эпохі Адраджэння, кантрадансы XVII стагоддзя, нацыянальныя танцы Заходняй і Усходняй Еўропы – вывучэннем усяго гэтага займаецца дадзены клуб. Але што такое старадаўні танец без адмысловага гарнітура? Узнаўленне строяў і этыкету адпаведных эпох таксама ўваходзіць у мэты турдыёнаўцаў.

Танцоры збіраюцца два разы на тыдзень (у аўторак і чацвер). Клуб не толькі ўдзельнічае ў разнастайных конкурсах і фесталях, але і праводзіць балы, семінары і майстар-класы.

Кантакты: +375259106436 (Яна)

Суполка Вконтакте: vk.com/turdionclub

***4. Бельфіорэ***

Вывучэннем танцаў эпох Сярэднявечча, Рэнесансу, Барока, Ракако займаецца клуб гістарычнага танца "Бельфіорэ". Тут, у адрозненні ад папярэдняга клуба, назіраецца большы ўхіл на танцы XV стагоддзя. Акрамя таго, удзельнікі рэканструюць побыт заходняй Еўропы XIV-XV стагоддзяў. Сваім прыкладам клуб паказвае, што рэканструктарскі рух не спыняецца, набіраючы новыя абароты: "Бельфіорэ" быў створаны зусім нядаўна – у 2011 годзе.

Заняткі клуба адбываюцца два разы на тыдзень (чацвер і суботу), а па аўторках і серадах хлопцы займаюцца ў майстэрнях.

Кантакты: +375292309366 (Юлія)

Суполка ВКонтакте: vk.com/club30429728

***5. Грыдні Мсціслава Глебавіча***

Клуб быў створаны ў 2004 годзе. Аднаўляе ён матэрыяльную культуру Паўднёва-Рускіх княстваў канца XII – сярэдзіны XIII стагоддзяў. У рэканструкцыі



# Як пажываюць гомельскія рэканструктары? Працяг

строояў, даспехаў, прадметаў побыту, мэблі, ювелірных вырабаў удзельнікі імкнуцца да якасці і апоры на аўтарытэтныя крыніцы. Назва клуба цесна звязана з мясцінай, на якой дзейнічае клуб: Мсціслаў Глебавіч – імя аднаго з князёў Чарнігаўскага княства, у тэрыторыю якога ў XII–XIII стагоддзях і ўваходзіў Гомель.

Кантакты: +375293059023 — Вэлком; +375256395915 — Лайф; +375336848338 — МТС

Сайт клуба: gridni.org/

Як бачым, заняпадам руху пакуль што і не пахне, хаця і былога ўздыму ўжо няма. Кіраўнікі апошняга згаданага намі клуба – "Грыдні Мсціслава Глебавіча" – Аляксей і Марына Сяргеевы падзяліліся з намі сваімі меркаваннямі наконт варункаў, у якіх існуе сёння рэканструктарскі рух у Гомелі.

***Што зараз адбываецца ў рэканструктарскім руху? Якія тэндэнцыі назіраюцца?***

Збольшага мы валодаем звесткамі па нашым накірунку, мала ведаем, што ствараецца у напрамку "Заходняй Еўропы". Зараз, мне здаецца, увесь рух падзяліўся на дзве плыні - тых, хто заняўся "living history", і тых, хто "рубіцца". Першыя спрабуюць як мага глыбей нырнуць у «глыб вякоў» ( і тут вельмі важна не стаць звычайным "літараедам"). Другія рыхтуюць сябе і сваю зброю да перамогі ў баёўках. Справа гэтых – не ўпасці ў спорт замест рэканструкцыі.

***Наколькі ў Гомелі развіты рух рэканструктараў у параўнанні з іншымі гарадамі і чаму?***

Калі параўнаць колькасць жыхароў і колькасць клубаў, то "гомельскаму руху" можна даць невысокую адзнаку. Але якасць і трываласць рэканструктарскіх традыцый Гомеля падвышае гэтую адзнаку. Чаму так? Індустрыяльны горад, мабыць. А можа, як кажам, "Палессе = дрыгва = дзе ініцыятыва?"




***Дзе на Беларусі рэканструктарская справа развіта мацней?***

Наймацнейшы рух – у Мінску. Значна менш ён праяўляе сябе ў абласных гарадах і часцей залежыць ад мінскіх клубаў.

***У пачатку 2000-х гадоў быў масавы ўздым руху. Ці ёсць людзі зараз, зацікаўленыя рэканструкцыяй?***

Зараз ёсць людзі, зацікаўленыя рэканструкцыяй: да нас далучаюцца новыя сябры.

***Чула, што ў пачатку нулявых шмат хто трапіў у рэкаструктарскі рух праз ралевікоў, праз захапленне фэнтэзійнай літаратурай…***

Самыя сур'ёзныя рэканструктары не гулялі ў ролевыя гульні ніколі, нават у кампутарныя. Больш за тое, людзі, што прыйшлі ў рэканструкцыю з ролевых гульняў так і не змаглі пазбавіцца ад гульні: ім бракуе сур'ёзнага стаўлення да справы. Ды і парыў у часе сур'ёзны - росквіт ралёўкі ў Беларусі прыходзіцца не на пачатак нулявых, а на 1996-98 гады, а рэканструкцыя масавая пачалася ў 2003-2005, "living history" - 2010-2012... Але ж, безумоўна, з кожнага правіла – куча выключэнняў. Наогул, гэта вельмі розныя сферы дзейнасці. Ролевыя гульні - чыста псіхалагічны і педагагічныя прыём, выхаванне і навучанне праз гульню. Рэканструкцыя нарадзілася з прыкладнага археалагічнага эксперыменту. Гэта метадалогія навуковая...

***Рэканструяваць 12-13 стагоддзі, напэўна, даволі складана. Дзе клуб "Грыдні Мсціслава Глебавіча" бярэ звесткі па зброі? Якія суадносіны прыдуманага і гістарычна вернага?***

Галоўны крытэр – "ці існавала гэта?", а ні ў якім разе не "ці падабаецца мне?". Гэта не ўсе і не адразу разумеюць. Жалеззе рэканструяваць лягчэй: яно праз 700 гадоў захавацца можа. А вось тканіну, адзенне – спрабуем дадумваць з апорай на выяўленчыя крыніцы – мініяцюры, іконы, разьбу. Зрэдку – этнаграфію. Рэдкія знаходкі дадаюць больш пытанняў, чым адказаў. І да іх вельмі цяжка дабрацца.

*Аўтар: Валянціна Міронава, http://nashkraj.info/content/view/731/1/*

# Трагічнае супадзенне: на Гомельшчыне ў дзвюх аварыях сутыкнуліся ВАЗ і Volkswagen

***У адной з аварый загінула пасажырка.***

Першае ДТЗ адбылася 13 чэрвеня ў Мазырскім раёне на дарозе Ельск-Мазыр у раёне вёскі Рудня, паведамляе сайт МНС. Кіроўца «ВАЗ-2107» не справіўся з кіраваннем і выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе адбылася сутыкненне з Volkswagen Jetta. У аварыі пацярпелі пасажырка Volkswagen, кіроўца і пасажырка ВАЗ.

Другая аварыя здарылася 15 чэрвеня ў суседнім Калінкавіцкім раёне на трасе Гомель-Брэст. Тут адбылася лабавое сутыкненне «ВАЗ-2105» і Volkswagen Jetta. У першым легкавіку былі тры чалавекі. Адна з пасажырак загінула, кіроўца і другая пасажырка трапілі ў бальніцу. Шпіталізавалі і кіроўцу VW. Акалічнасці здарэння высвятляюцца.

Паводле 112.by

*БелаПАН*




# Школьнік на бацькоўскім аўто трапіў у аварыю — загінулі двое

***Трагедыя здарылася ў Светлагорскім раёне ў ноч на 3 чэрвеня.***

У Светлагорскім раёне на аўтамабілі бацькі школьнік учыніў ДТЗ, у якім загінулі двое непаўналетніх

Светлагорскім раённым аддзелам Следчага камітэта Беларусі распачата крымінальная справа за парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць двух і больш чалавек (ч. 3 арт. 317 КК). ДТЗ адбылося сёння ноччу.

Як паведаміла БелаПАН афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, каля трох гадзін ночы 3 чэрвеня ў Светлагорскім раёне школьнік 1995 года нараджэння, не маючы вадзіцельскага пасведчання, не справіўся з кіраваннем бацькоўскім «ВАЗ-2101», вылецеў з дарогі ў кювет, дзе ўрэзаўся ў дрэва.

У выніку дарожна-транспартнага здарэння загінулі пасажыры аўтамабіля — двое непаўналетніх 1996 і 1997 гадоў нараджэння. Дзяўчына 1997 года нараджэння атрымала траўмы і была шпіталізаваная ў цэнтральную раённую бальніцу. Вадзіцель не пацярпеў.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

# Жанчына задушыла немаўля падчас кармлення

***Суд Жлобінскага раёна вынес вырак па справе мясцовай жыхаркі, якая абвінавачваецца ў прычыненні смерці па неасцярожнасці. Жанчына выпадкова задушыла нованароджаную дачку пры кармленні грудзьмі.***

Маці пакараная двума гадамі папраўчых работ, прысуд пакуль не ўвайшоў у сілу.

Як паведаміў пракурор аддзела па наглядзе за законнасцю судовых пастаноў па крымінальных справах пракуратуры Гомельскай вобласці Сяргей Салоўскі, 42-гадовая жанчына, ужо з'яўляючыся маці чатырох дзяцей, у пачатку снежня 2011 года нарадзіла дачку. Дзяўчынка загінула праз месяц. У той вечар яе маці разам са знаёмымі, якіх запрасіла ў госці, распівала спіртное.

Экспертыза ўстанавіла, што жанчына выпіла прыкладна паўпляшкі гарэлкі. Калі госці пайшлі, дзіця прачнулася, і жанчына лягла на ложак, каб яго пакарміць. Яна не заўважыла, як заснула.

Раніцай убачыла, што дзяўчынка мёртвая — жанчына выпадкова задушыла яе падчас сну.

«Яе галоўная віна ў тым, што яна ўжывала алкаголь, хаця ведала, што маленькае дзіця давядзецца карміць. На судзе жанчына раскаялася і поўнасцю прызнала сваю віну», — пракаментаваў пракурор.

*БелаПАН*

Беларускія аграномы прызналі Porsche Cayenne лепшым камбайнам па збору дзяўчын.

ГумНо СПАРТЫУНАЕ

# Гульцы «Рудзенска» ў знак пратэсту затрымалі пачатак матчу з «ДСК-Гомель»

***Футбалісты такім чынам спрабавалі звярнуць увагу на фінансавыя праблемы клуба.***

Учора гульцы «Рудзенска», які выступае ў першай лізе футбольнага чэмпіянату, у знак пратэсту затрымалі пачатак матчу з «ДСК-Гомель». Футбалісты такім чынам спрабавалі звярнуць увагу на фінансавыя праблемы клуба. Сітуацыю пракаментаваў галоўны трэнер «Рудзенска» Леанід Лагун.

— Так, сапраўды, нашай камандай быў затрыманы матч на 15 хвілін менавіта з-за таго, што апошнім часам на нас навалілася вялікая колькасць фінансавых праблемаў. Я так разумею, што такія дзеянні — гэта спроба звярнуць на сябе ўвагу, некаторым чынам папярэджанне: калі нічога не зменіцца, каманда можа не паехаць на наступную гульню, — сказаў галоўны трэнер.

**— Гульцы раіліся з Вамі з гэтай нагоды ці прынялі самастойна рашэнне?**

— Звычайна па такіх пытаннях да трэнераў не звяртаюцца. Але, вядома ж, я такое прагназаваў. Час да такіх дзеянняў прыйшоў.

**— Можаце падрабязней распавесці аб праблемах каманды?**

— Сёння «Рудзенск», напэўна, самая бедная каманда ў першай лізе. У нас не было збораў, няма экіпіроўкі, новай гульнявой формы. Хлопцы выступаюць у леташніх футболках.

Мы — адзіная каманда, якая не атрымала буцаў, а брамнікі і пальчатак. Усе праблемы паступова збіраюцца, як снежны ком. Да таго ж ёсць яшчэ запазычанасці перад некаторымі гульцамі за мінулы год, пайшлі запазычанасці па гэтым сезоне.

Дадайце да гэтага і тое, што ў нас няма вады на трэніроўках, гарбаты, кавы — элементарных рэчаў: фішак, манішак.

Нягледзячы на фінансавыя праблемы, футбалісты «Рудзенска» перамаглі «ДСК-Гомель» — 2:1. Пасля дзевяці тураў падапечныя Леаніда Лагуна займаюць дзявятае месца ў турнірнай табліцы.

*football.by*




Аркадзь не любіў паркур, прабежкі, экстрым, адрэналін. Але два суседскія даберманы раскрылі ў ім патэнцыял!

# «Гомель» ляціць на Фарэры

***Стала вядомая пара сапернікаў у першым раўндзе Лігі Еўропы.***

Бронзавы медаліст чэмпіяната Беларусі «Гомель» сустрэнецца з малавядомым клубам «Вікінгур» з Фарэрскіх выспаў.

«Вікінгур» малады клуб, яму ўсяго толькі чатыры гады. Ён базуецца на выспе Эстурой. У гэтым чэмпіянаце клуб ідзе трэцім пасля чатырнаццаці тураў. Колеры каманды — сіне-чорныя.

З фарэрскімі клубамі беларусы перасякаліся толькі аднойчы. У 2001 мазырская «Славія» ў першым кваліфікацыйным раўндзе Лігі чэмпіёнаў перамагла «Вагур» (5:0, 0:0).

Матчы пройдуць 5 і 12 ліпеня.

У другім кваліфікацыйным раўндзе салігорскі "Шахцёр" згуляе з аўстрыйскім "Рыдам" (першы матч -- 19 ліпеня ў Салігорску), а "Нафтан" -- з "Црвенай Звездай" (Сербія).

*Наша Ніва*

# Ігар Случак збірае каманду для выбарчай кампаніі

***Стваральнік грамадскай ініцыятывы “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак заявіў, што будзе ўдзельнічаць у выбарах як незалежны кандыдат у дэпутаты беларускага парламента ў сваім родным Гомелі. Ён лічыць, што варта скарыстаць магчымасці выбарчай кампаніі для папулярызацыі беларускай мовы.***

- Гэта, па-першае, будзе магчымасць, каб яшчэ больш афіцыйна можна было б паразмаўляць аб праблемах беларускай мовы. Напрыклад, пад час той жа агітацыйнай кампаніі. Калі мяне зарэгіструюць, будзе магчымасць выступіць па тэлебачанні, па радыё. Мне б хацелася, каб мая кампанія прайшла больш цікава. Раней я таксама ўдзельнічаў у іншых кампаніях, але не як кандыдат, і было тое не вельмі цакава для людзей. Кампанія праходзіла шэра. Таму захацелася ў гэтым трохі паэксперыментаваць.

Ігар Случак вырашыў выкарыстаць для выбарчай кампаніі сацыяльныя сеткі, у якіх ужо распаўсюдзіў інфармацыю з прапановай, дасылаць свае дадзеныя і з карыстачоў сацыяльных сетак сфармаваць сваю ініцыятыўную групу для вылучэння ў кандыдаты ў дэпутаты. Акрамя таго Ігар Случак "Укантакце" зараз праводзіць апытанне жыхараў Гомеля, па якой выбарчай акрузе абласнога цэнтра яму найлепш вылучацца.

*Васіль Кроква, Радыё Рацыя*






# Бура пашкодзіла цэнтральны сквер у Гомелі

***Прыкладна ў 20 гадзін 13 чэрвеня на Гомель абрынуўся ўраганны вецер. Больш за ўсё пацярпеў цэнтральны сквер, дзе павалена і пашкоджана каля дзесяці буйных дрэў.***

У сквер аператыўна прыбылі дзясяткі работнікаў камунальных служб, якія распілоўвалі ствалы дрэў, што завалілі пешаходныя дарожкі.

Паводле папярэдняй інфармацыі, іншых значных пашкоджанняў вецер у Гомелі не нанёс, ахвяр ад паваленых дрэў няма.

*Алена Германовіч, БелаПАН*



Пасьля таго, як прачыталі газетку, Вы можаце загарнуць у яе Вашыя ашчаджэнні!

А замовіць безкаштоўны свежы нумар Вы заўсёды можаце на



GNAVINKI@GMAIL.COM

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
“Гомельскія Навінкі чэрвень 2012”
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246050, г. Гомель, вул. Мазаева, 17,
рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2012”

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы
“ГумНо”, г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.




Мы ў сацыяльных сетках:
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/gumno2007
***facebook.com:*** http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava
***Аляксей Венецыянаў:*** http://vk.com/id167202367

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA